*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2019, № 12(46). Снежань

# Слонім у 1916 годзе



*Від на горад з боку Шчары*

Фотаздымкі Слоніма, зробленыя ў гады Першай сусветнай вайны, працягваюць з’яўляцца на інтэрнэт-аукцыёнах. Нядаўна жыхар бельгійскага Гента прадаваў іх на ebay.com аж некалькі дзесяткаў! У апісанні пазначана, што гэта Слонім і наваколле. Многія аб’екты пазнавальныя, як былыя касцёл і кляштар бернардзінцаў (цяперашні Свята-Троіцкі сабор і будынак інтэрнату), касцёл св. Андрэя, Гандлёвая плошча, Гандлёвыя рады, канал Агінскага. Фатограф зафіксаваў не толькі нямецкіх салдат, але і слонімцаў — гараджан і вяскоўцаў. Яны працуюць, гандлююць, проста пазіруюць перад аб’ектывам камеры.

Фатограф здымаў не толькі ў цэнтры горада, але і на ўскраінах. На фота ёсць маленькія драўляныя жылыя дамы, разнастайныя гандлёвыя кропкі, тагачасны аўтатранспарт.

На жаль, гісторыя гэтай калекцыі невядомая. Магчыма, яна ўваходзіла ў альбом вайскоўца, які служыў у Слоніме і захаваў здымкі, як памятку пра тыя ваенныя гады.

●Сяргей Ёрш



*Гандлёвая будка ў Слоніме*

*Працяг на ст. 3.*

ХРОНІКА

# Новы пешаходны мост

slonves.by

18 снежня адбылася доўгачаканая падзея — на падрыхтаваныя бетонныя пляцоўкі ўсталявалі металічную канструкцыю пешаходнага моста праз Шчару ў Слоніме. Улады заканчваюць рэалізацыю аднаго з праектаў, запачаткаваных напярэдадні Дня беларускага пісьменства і друку. Мост звязвае левабярэжжа з боку вуліц Агінскага і Кутузава з правабярэжжам, дзе месціцца мэблевая фабрыка і бярэ пачатак Гандлёвая вуліца. Некалькі дзесяцігоддзяў у тым месцы быў стары пешаходны мост, але час яго ўжо прайшоў.

З'яўленне такога аб'екта ў Слоніме не можа не радаваць. Хочацца спадзявацца, што добраўпарадкаванне канала і Шчары ў будучыні працягнецца.

●Генадзь Гурскі

# Пракуратура выявіла парушэнні

У пачатку снежня пракуратура Гродзенскай вобласці запатрабавала выправіць дапушчаныя парушэнні ў сферы аховы гісторыка-культурнай спадчыны. Была выяўлена адсутнасць *"элементарнага парадку на аб'ектах, навядзенне якога не патрабавала значных матэрыяльных затрат"*.

У "чорны спіс" патрапіла і Слонімшчына. Першы аб'ект — "Комплекс былой сядзібы "Альбярцін": два флігелі першай паловы XIX стагоддзя", які знаходзіцца на балансе аддзела культуры Слонімскага райвыканкама. Другі аб'ект — "Комплекс кляштара бернардзінцаў: жылы корпус XVII-XVIII стагоддзяў", які знаходзіцца на балансе Слонімскага дзяржаўнага медыцынскага каледжу.

У паведамленні пракуратуры не ўдакладняюцца дэталі. Грамадскасць даўно заклікала ўлады знайсці сродкі для рэканструкцыі палаца Пуслоўскіх (апошняя буйная яго рэканструкцыя была ў пачатку 1950-х). На жаль, Альбярцін не закранулі працы па падрыхтоўцы да Дня беларускага пісьменства.



# Слонім у 1916 годзе




*Нямецкі салдат*
*і група мясцовых жыхароў / ebay.com*

*Каля гандлёвых радоў*
*у Слоніме / ebay.com*

*Працяг на ст. 4.*

# Слонім у 1916 годзе




Пра пажар Гандлёвых радоў у Слоніме 13 верасня 1916 года “СК” пісаў неаднаразова (апошні раз — 2019, № 7. С. 20). Агонь знішчыў ці пашкодзіў палову будынка, які месціўся ў самым цэнтры горада на месцы цяперашняга сквера па Першамайскай вуліцы.




*Жабракі / ebay.com*







*Касцёл св. Андрэя*

# Слонім у 1916 годзе

*Працяг, пачатак на ст.1,3-5*




*Сплаўка лесу на Шчары ў Слоніме / ebay.com*

*Бежанцы з Баранавічаў на Банкавай вуліцы (цяпер — Васі Крайняга) ў Слоніме / ebay.com*

*Калона нямецкіх вайскоўцаў уступае з Ружанскай вуліцы на Гандлёвую плошчу / ebay.com*




*Нямецкія вайскоўцы будуюць навес на Гандлёвай плошчы / ebay.com*

# Вёска Вішава і ваколіцы

*Працяг, пачатак у №10-11, 2019 г.*




### З гісторыі вёскі Студзераўшчына

У XVIII — першай палове XIX стагоддзя вёска Студзераўшчына Слонімскага павета Гродзенскай губерні належыла да роду памешчыкаў Дыбоўскіх. У 1829 годзе ўладальніцай вёскі значыцца Ганна Дыбоўская, жонка памешчыка Керсноўскага, прэзідэнта апеляцыйнага гранічнага суда Наваградскага павета (яна атрымала маёнтак ад свайго бацькі па вотчыннаму праву). У 1835 годзе была зроблена рэвізія маёнтка, у якой пазначана, што зямлі ў валоданні Ганны было 1010 дзесяцін, у вёсцы налічвалася 19 цяглавых двароў, 69 мужчынскіх душ. Сяляне займаліся земляробствам, а зімой адпрацоўвалі падводную павіннасць: вазілі лес і тавары ў Гродна, Вільню, Мінск, Слонім, Ліду. У маёнтку знаходзіліся мукамольны млын, машына для рэзкі саломы (сячкарня), драўляныя вінакурня і карчма. За год ён прыносіў Ганне Керсноўскай чыстага прыбытку 119 рублёў срэбрам.[1]

Пазней маёнтак Студзераўшчына перайшоў да Алены Дыбоўскай (па мужу Брахоцкай), а ў 1844-м яна прадала маёнтак Ксаверыю Францавічу Гнаінскаму:

*"Имение Стейдеровщизна Слонимского уезда помещика Гноинского Ксаверия, 13 декабря 1845 года.*

*Имение осталось по наследству от покойного Фомы Дыбовского, коллежского секретаря, дочери Элены Фоминой Брохоцкой. Ей по документу 17 марта 1844 года Новогрудский уездный суд лично явленной впредь со свершения купчей владение приобретено коллежскому асессору Ксаверию Францову сыну Гноинскому".*[2]

У пачатку Першай сусветнай вайны Гнаінскія адчыняюць новы вінакурны завод у вёсцы: 4 кастрычніка 1914 года ўладальнік маёнтка Студзераўшчына Канстанцін Ксавер'евіч Гнаінскі напісаў заяву ў акруговае акцызнае ўпраўленне аб выдачы патэнту на права вінакурэння на студзераўскім вінакурным заводзе № 57 у перыяд за 1914-1915 гг.[3]

### З гісторыі вёскі Вішава

У Расійскім дзяржаўным архіве старажытных актаў захоўваецца дакумент "Камісія Эдукацыйнага Фундуша", у якім пазначана, што *"Вишов Добра давние ксендзов и иезуитов Резиденции Слонимскай, а цераз до Фундушу Эдукацыйнага належыць. Наследие тое аказваецца здавна ад року 1543, июня 8".*[4]

Маёнтак Вішава ў 1543 годзе належыў каталіцкай царкве, затым перайшоў ва ўласнасць ордэна езуітаў, які кантраляваў сістэму навучальных устаноў у Рэчы Паспалітай.

Скасаванне папам рымскім Клімента XIV ордэна езуітаў у 1773 годзе стала падставай для стварэння каралём Станіславам Аўгустам Панятоўскім у Рэчы Паспалітай адукацыйнай камісіі — першага ў Еўропе міністэрства асветы. Адукацыйная камісія пераняла маёмасць ліквідаванага ордэна езуітаў і выкарыстоўвала яе для патрэб асветы. 20 чэрвеня 1776-га маёнтак Вішава перайшоў ва ўласнасць адукацыйнай камісіі. У 1782 годзе Вішава — паезуіцкі маёнтак, які быў перададзены ў прыватную ўласнасць на наступных умовах: замест аднаразовай выплаты пакупной сумы маёнтка быў пакінуты ў вядомых памерах "*эдукационный долг*", з якога ўладальнік маёнтка абавязваўся выплачваць на "вечныя часы" нейкую долю, якая ішла, як і раней, на адукцыю ў краі.[5]

Пасля ўключэння зямель Рэчы Паспалітай у склад Расійскай імперыі царскі ўрад прызнаў паезуіцкія маёнткі ўласнасцю асоб, якія іх набылі, і яны паранейшаму плацілі адукацыйны капітал, які ў 1807 годзе быў павялічаны на 25%. Казённае ведамства пільна наглядала за правільнасцю паступлення плацяжоў з правам секвестра маёнткаў і перапродажу іх іншай асобе ў выпадку няспраўнасці плацяжоў.

У XVIII стагоддзі маёнтак Вішава належыў шляхецкаму роду Дыбоўскіх, які быў вядомы з XVI ст. і меў герб "Наленч". З гэтага ж старажытнага роду паходзіць і Бенедыкт Дыбоўскі — вядомы вучоны, адкрывальнік Байкала, які за ўдзел у

нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1863-1864 гадоў быў асуджаны на павешанне, але смяротная кара была заменена на 15 гадоў высылкі ў Сібір, бо ў яго абарону выступілі германскія вучоныя і сам канцлер Бісмарк. У Сібіры Бенедыкт Дыбоўскі працягваў навуковую дзейнасць: даследаваў жывёльны і раслінны свет возера Байкал, рэк Амур і Ангара, узбагаціў заалогію шэрагам новых адкрыццяў.

Па прывілею караля Рэчы Паспалітай Станіслава-Аўгуста Панятоўскага ад 23 лістапада 1782 года Тамаш Дыбоўскі, стараста вірыдымаўскі, атрымаў паезуіцкі фальварак Вішава Слонімскага павета з сялянамі з умовай выплаты працэнту на адукацыйную камісію, дакумент быў актыкаваны 15 кастрычніка 1797-га ў Наваградскім гарадскім судзе. Два браты Тамаша — Тадэвуш і Антоній Дыбоўскія — з'яўляліся ротмістрамі слонімскімі, ці камандзірамі кавалерыйскай слонімскай харугвы. 27 снежня 1774 года ротмістр слонімскі Тадэвуш Дыбоўскі па прывілею караля атрымаў Ламазскае войтаўства Брэсцкага ваяводства, а ў 1796 г. — маёнтак з 201 мужчынскімі і 173 жаночымі падданымі ў Ашмянскім павеце. У 1811 годзе стаў уладальнікам маёнтка Койданава Мінскага павета. А яго брат, ротмістр слонімскі Антоній Дыбоўскі, сын Дамініка, валодаў праезуіцкім фальваркам Вішаў у Слонімскім павеце, маёнткамі Дарэва, Ястржэбль, Косічы, Навашчычы ў Кобрынскім павеце, Палбрэгі і Вераскава ў Наваградскім павеце. Пазней маёнтак Вішава перайшоў да Тамаша Дыбоўскага, які нарадзіўся у сям'і Антонія Дамінікавача Дыбоўскага і Алены Нарушэвіч. Тамаш быў хрышчоны 7 верасня 1773 года ў Раготнеўскім касцёле (цяпер гэта вёска ў Дзятлаўскім раёне).




*Ксаверый Гнаінскі. Надпіс: Сыну майму Канстанціну, 1867 год, Ксаверый Гнаінскі, 72 гады*

У 1794-м кароль Рэчы Паспалітай прызначыў Тамаша Дыбоўскага шамбелянам — уладальнік такой прыдворнай пасадай у XVIII ст. павінен быў знаходзіцца пры манарху для ганаровых паслуг падчас цырымоній. Пасада існавала як ўзнагарода магнатам. У 1841 годзе

# Вёска Вішава і ваколіцы

*Працяг, пачатак на ст.10-11*

Вішава па спадчыне перайшло ва ўласнасць да Алены Брахоцкай (1823 — 1878), бацькамі якой былі Тамаш Дыбоўскі і Антаніна Ануфрыеўна Маркевіч.[6]

Алена Дыбоўская выйшла замуж за наваградскага маршалка Уладзіслава Брахоцкага (1810 — 1896), які быў сябрам Віленскай археалагічнай камісіі, заснавальнікам і ганаровым папячыцелем бібліятэкі ў Наваградку. Радавым маёнткам сям'і Алены Брахоцкай стала вёска Вераскава ў Наваградскім павеце, якая ператварылася ў цэнтр грамадскага, культурнага і патрыятычнага жыцця, а падчас паўстання 1863-1864 гадоў — прытулкам для паўстанцаў і складам для зброі і харчовых запасаў. Багаты землеўладальнік Уладзіслаў Брахоцкі — адзін з першых адмяніў у сваім маёнтку прыгоннае права і стаў бясплатна раздаваць сваю зямлю сялянам, заахвочваючы ўступаць у рады паўстанцаў. Калі Уладзіслава Брахоцкага саслалі ў Сібір, жонка Алена рушыла ўслед за ім. Вярнуліся яны ў Вераскава ў 1874 годзе. Вось такая сапраўдная жонка беларускага "дзекабрыста".

14 сакавіка 1844-га Алена Брахоцкая прадала маёнтак Вішаў калежскаму рэгістратару і сакратару дваранства Ксаверыю Францавічу Гнаінскаму, што купчай зацвердзіў Наваградскі павятовы суд.[7] 17 сакавіка таго ж года ў тым жа суддзе была заверана пакупка маёнтка Студзераўшчына Ксаверыем Гнаінскім ў Алены Брахоцкай.

Маёнтак Вішаў Гнаінскага складаўся з фальварка Вішаў і хутара Францава: *"Имение Вишево составляет в одной части поизуитскую, а в другой части Дворянскую*



*Канстанцін Гнаінскі*

*владельческую собственность от Елены Брохоцкой по документу 14 марта 1844 года. Имение состоит из фольварка Вишова и вновь застраиваемого хутора Францова. По инвентарю, представленному помещиком, показано крестьян: Антон Брайчук, Яков Брайчук, Янка Брайчук, Павел Рахман, Антон Рахман, Янко Ярош, Степан Кулеш, Василь Краучук, Григорий Вишевский, Андрей Якопчик, Трофим Фурманчук, Фёдор Дорощих, Фёдор Уласик, Цирин Дударь, Семён Биттый, Фома Левкевич, Василь Чиргуль".* [8]

У XIX стагоддзі фальварак Вішаў быў вядомы сваім конезаводам, дзе памешчыкі Гнаінскія гадавалі коней і гандлявалі імі на кірмашах, а каштоўныя пароды ангельскай масці — для ўдзелу ў конных спартыўных спаборніцтвах. Мясцовыя жыхары казалі, што "пан Гнаінскі трымаў конезавод, бровар і пляцоўку ў Варшаве". Што ж гэта за "пляцоўка"? Можна меркаваць, што ў Канстанціна Ксавер'евіча Гнаінскага меўся свой іпадром ў Варшаве.

"Kurjer Warszawski" у 1910 годзе паведамляў, што ў 1890-м на генеральным сходзе ў Варшаве быў зацверджаны праект таварыства па развядзенню коней ангельскай пароды для правядзення конных выстаў і спаборніцтваў. Сябрам згаданага таварыства з'яўляўся Канстанцін Гнаінскі. А ў рубрыцы "Са спорту" друкаваліся вынікі конных забегаў у Варшаве, у якіх удзельнічалі двое коней памешчыка Гнаінскага "Лоўчы" і "Чамберлі", яны мелі поспех і часта атрымлівалі галоўныя прызы.

За вёскай Вішава знаходзіўся іпадром, вялікі круг, дзе трэніраваліся спартсмены з ліку мясцовых сялян. Аднаго з іх звалі Рохман, ён ездзіў з вёскі Вішава на конях у Польшчу і Францыю для ўдзелу ў конных спартыўных спаборніцтвах. Вішаўскі спартсмен Рохман пражыў больш за 100 гадоў, меў добрае здароўе і ніколі не наведваў дактароў.

●Святлана Брайчук

Працяг у наступным нумары

*[1] Нацыянальны дзяржаўны архіў Беларусі ў г. Гродна, ф. 1, воп. 10, спр. 1591.*

*[2] Тамсама. Ф. 96, воп. 1, спр. 685.*

*[3] Тамсама. Ф. 30, воп. 1, спр. 712.*

*[4] Комиссия Эдукационного фундуша. Российский государственный архив древних актов [электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://rgada.info/index.php — Дата доступу: 08.05.2019.*

*[5] Тамсама.*

*[6] Покровский Ф. Археологическая карта Гродненской губернии. — Вильна, 1895.*

*[7] НДАБ у г. Гродна, ф. 96, воп.1, спр. 684.*

*[8] Тамсама. Спр. 684, 685.*

# Барыс Пясецкі

Гэты здымак нядаўна быў у продажы на сайце allegro.pl. У апісанні паведамлялася, што на ім у парадным мундзіры з узнагародамі — пажарны і віцэ-бурмістр Слоніма Барыс Пясецкі.

Ён шмат зрабіў для горада, а пра яго мы ведаем вельмі мала. Пясецкі ў міжваенны час (у 1920-1930-я гады) кіраваў гарадской добраахвотнай пажарнай вартай.

Барыс Абрамавіч Пясецкі нарадзіўся ў Слоніме ў 1894 годзе ў яўрэйскай сям'і. У яго была сярэдняя адукацыя. Начальнікам слонімскіх пажарных стаў дзесьці ў сярэдзіне 1920-х гадоў. Пажары здараліся часта, працы ў тагачасных ратавальнікаў хапала. Гарадскія ўлады знаходзілі сродкі для абнаўлення іх тэхнічнага абсталявання. Пясецкі ўдзельнічаў у грамадскай дзейнасці, быў віцэ-бурмістрам Слоніма.

Прыход бальшавікоў восенню 1939-га стаў канцом для кар'еры Барыса Пясецкага як у органах улады, так і ў пажарнай службе. У некаторых крыніцах можна сустрэць інфармацыю, што ў 1940-м, разам з іншымі вядомымі мясцовымі яўрэйскімі дзеячамі, яго адправілі ў высылку ў Расію. Насамрэч, ён быў арыштаваны 25 лістапада 1939 года. На той час Барыс Пясецкі нідзе не працаваў. 9 студзеня 1941-га яго асудзілі на 5 гадоў папраўча-працоўных лагероў як "сацыяльна-небяспечны элемент". І адправілі на ўсход.

Але 22 чэрвеня 1941 года выбухнула вайна. Летам таго года ў СССР пачала стварацца польская армія Андэрса, у яе ўліваліся палякі, беларусы, яўрэі, раней асуджаныя савецкімі ўладамі і вызваленыя. У базе "Мемарыяла" згадваецца, што Барыс Пясецкі быў вызвалены 29 жніўня 1941 года. Ці дабраўся ён да арміі Андэрса? На жаль, невядома.

Пракуратура Гродзенскай вобласці рэабілітавала слонімца яшчэ ў часы СССР — у лістападзе 1989 года.

●Генадзь Гурскі




*Пячатка добраахвотнай пажарнай варты г. Слоніма*

# У засені “Зялёнага дуба”. Атаман Грач

*Працяг, пачатак у №8-11, 2019 г.*

Джункоўскі разам з начальнікам Контрразведвальнага аддзела Артузавым і распрацавалі аперацыі “Сіндыкат-2”, “Трэст”. Былыжандарпатлумачыўчэкістам, што не варта бегаць за тэрарыстамі і контррэвалюцыянерамі-адзіночкамі. Неабходна ствараць арганізацыі-легенды з вядомых эміграцыі дзеячоў. Так нарадзіліся “Манархічная арганізацыя Цэнтральнай Расіі”, г. зв. “Ліберальныя дэмакраты”, арганізацыі-заманухі, якія настойліва шукалі кантакты з антысавецкімі цэнтрамі замежжа. Аператыўная гульня доўжылася шэсць гадоў. Джункоўскі і Артузаў знаходзілі ўсё новых акцёраў.

Выдаючы сябе за чальца легендзіраванай падпольнай арганізацыі “Ліберальныя дэмакраты”, Глінскі інспектаваў атрады баевікоў. Даверaная асоба Савінкава, свой сярод зялёнадубцаў, ён адыграў злавесную ролю пасобніка іх правалу. С. Глінскі, адзін з актыўных выканаўцаў аперацыі ”Сіндыкат-2”, персанальна адказваў за пераход Барыса Савінкава і яго паплечнікаў на давераным яму ўчастку мяжы. У мэтах дасягнення паспяховага фіналу гульні са знакамітым тэрарыстам 16 чэрвеня 1922 года Глінскі быў прызначаны начальнікам Заслаўскага памежнага Асобага аддзялення. Ён забяспечваў “калідор” для перадачы каштоўнага здабытка чэкістаў ў Мінск. Стась і Грачу “дапамог” пераадолець мяжу, якая, так сталася, перасекла жыццё Ксяневіча на дзве няроўныя, і калі разабрацца, супрацьлеглыя часткі. Пад якім прозвішчам Грач ведаў Станіслава, застаецца таямніцай, але, безумоўна, яны былі добра знаёмыя.

З нейкіх прычын зялёнадубец падчас першага арышту утаіў, што меў яшчэ адну яўку ў Мінску, якую атрымаў ад Радаслава Астроўскага, — да П. Мядзведзя, старшыні ДПУ Беларусі. Прызнанне Грача, зробленае ў 1938-м, ужо ніякім чынам не паўплывала на лёс чэкіста. Ён быў расстраляны ў лістападзе 1937 года. Піліп Дзем’янавіч Мядзведзь у аперацыі ”Сіндыкат-2” прымаў самы непасрэдны ўдзел, можна сказаць, быў адной з ключавых фігур ашаламляльнага фарсу. Мяркуючы па ўсім, Грач туга залез у павуцінне “Трэста”. Кіраўніцтва “ЗД” само часцяком удала блефавала, складала сцэнары развіцця падзей на сваю карысць. Але ў выпадку з Ксяневічам шмат людзей, свядома ці не (пытанне зараз цяжка вырашальнае), удзельнічалі ў падрыхтаваных чэкісцкімі канструктарамі падзеях. Угаворвалі, падштурхоўвалі, стваралі праўдападобную легенду, накіроўвалі і суправаджалі... у пастку. Лёс Савінкава, тлумачыў Грач чыцінскаму следчаму, падаў надзею на лепшае разрашэнне яго жыццёвай калізіі. Як вядома, зорка рускага тэрору, хаўруснік зялёнадубцаў і знаёмец Уладзіміра Францавіча быў арыштаваны ў жніўні 1924 года. Савецкі справядлівы суд прадэманстраваў велікадушнасць, смяротная мера пакарання была зменена на дзесяцігадовы турэмны тэрмін. Пакаянныя прамовы Савінкава мелі каласальны рэзананс. Не ўсе яго паплечнікі верылі ў рэальнасць таго, што адбывалася. Аднак удар быў звыш адчувальным.

*“З беларускіх акраін Польшчы паведамляецца, што сярод прыхільнікаў Савінкава пануе поўная разгубленасць,* — адзначала адно з галоўных выданняў савецкай Беларусі “Звязда”. — *Можна меркаваць, што частка з іх пойдзе па яго слядах і пераменіць свае адносіны да савецкай улады”.*


*Уладзімір Джункоўскі*


*Артур Артузаў*


*Піліп Мядзведзь*

Гульня працягвалася. Памілаванне фігуры такога маштабу было выдатным

палітычным крокам. Адтэрміноўка пакарання спарадзіла у часткі стомленых, расчараваных баевікоў хісткія надзеі на паразуменне з бальшавікамі. Грач, які паўтарыў шлях Савінкава літаральна па свежых слядах, ужо праз сем тыдняў мог трапіць у палон такіх ілюзій.

Увогуле меркаванняў з нагоды пераходу Грача на савецкі бок шмат. Прычыны падаюцца рознымі: са сфер вялікай палітыкі, геапалітыкі, міжнародных адносін і асабістых праблем, душэўных хістанняў. Ціск палітычных фактараў на яго лёс каласальны. А знаходжанне сям'і на савецкай тэрыторыі рабіла яго закладнікам вымушаных небяспечных крокаў. Дэзарыентуючы дзейнасць палітычнага праціўніка, савецкія спецслужбы адначасова намагаліся перакanаць антысавецкія "элементы" ў адсутнасці перспектыў барацьбы і ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы савецкай дзяржавы. Паспяхова ажыццяўлялі перавярбоўку агентаў, карыстаючыся негатыўным уплывам на людзей розных фактараў. Непрыкаяннасць беспрацоўных і незапатрабаваных ваенных прафесіяналаў, палітычны ціск гаспадароў, якія далі прытулак, а самае галоўнае, — страта радзімы, сям'і, — рабілі з іх лёгкую здабычу для спрактыкаваных паляўнічых. У сутыкненні шчырых і прыстойных людзей з мутнымі постмадернавымі правакатарамі (што называецца нічога святога) першыя заўседы застаюцца ў дурнях.

Прыхільнікі беларускага суверэнітэту патрапілі ў вельмі незайздросную сітуацыю падвоенага ціску. Пасля заключэння Рыжскай дамовы дзейнасць антысавецкай узброенай апазіцыі знаходзілася пад пільнай увагай савецкай і польскай уладаў. Для абодвух



*Барыс Савінкаў*

бакоў прыхільнікі незалежнасці, беларускай дзяржаўнасці былі прыкрай перашкодай імперскіх планаў. Яшчэ ўвосень 1921 года амаль усе лідары беларускай партызанкі на тэрыторыі Заходняй Беларусі былі арыштаваны і размеркаваны па польскіх турмах і лагерах, дзе знаходзіліся дастаткова працяглы час. На думку польскіх палітыкаў факт наяўнасці ваенных баз і шырокай баявой дзейнасці, якая практычна не магла быць заканспіравана цалкам, пагражала канфліктам з Савецкай Расіяй.

Мяркуючы па ўсім, толькі распачатая саветамі партызанская вайна на акупаваных беларускіх тэрыторыях прадухіліла канчатковую расправу з антысавецкімі арганізацыямі. Пагромныя рэйды атрадаў Мухі-Міхальскага (К. Арлоўскага), Смольскага (С. Ваўпшасава). Цвяткова (А. Рабцэвіча) і іншых кіраўнікоў антыпольскіх аддзелаў пасадзейнічалі вяртанню генерала Булак-Балаховіча да справы. Рэшткі зялёнадубцаў спатрэбіліся для фарміравання г. зв. супрацьпартызанскіх атрадаў, мэтай якіх было знішчэнне партызанскіх груп, што мелі базы на тэрыторыі савецкай Беларусі. Атаманы Дзяргач, Гаварухін, Караткевіч, Вішнеўскі (Хведашчэня) і іншыя працягвалі змаганне супраць добра ўзброеных дыверсійных савецкіх аддзелаў. З абодвух бакоў, згодна чужым палітычным планам, беларускія партызаны ўцягваліся ў грамадзянскую вайну.

Відавочным было глыбокае расчараванне беларускіх арганізацый вынікамі партнёрства з польскімі палітыкамі і вайскоўцамі. Натуральна, што позіркі пакрыўджаных накіроўваліся ў бок другіх верагодных хаўруснікаў: Германіі, Ковенскай Літвы і нават саветаў. Абсалютна магчымай прадстаўлялася перспектыва выкарыстання імі беларускага пытання ў сваіх інтарэсах. Беларускія левыя палітыкі ўсё больш упэўнена заяўлялі, што *"па той бок граніцы савецкі ўрад будуе новы дом для беларускага народа"*. Савецкі Мінск не шкадаваў грошай на падтрымку лаяльных да камуністычнай улады палітычных партый і сродкаў масавай інфармацыі ў Заходняй Беларусі. Яны сеялі ілюзіі беларускага адраджэння на савецкім усходзе.

Асяродкам выхавання левых перакананняў, радыкальных "чырвоных" поглядаў стала Віленская беларуская гімназія на чале з дырэктарам Радаславам Астроўскім. Не было вялікім сакрэтам, што гэта навучальная ўстанова атрымлівала грашовую дапамогу з Мінска. Менавіта Астроўскі выступіў гарантам бяспекі Грача пры падрыхтоўцы і ажыццяўленні аперацыі "Пералёт". Дзяргач тлумачыў разведчыку, што дзеячы ў сталіцы Савецкай Беларусі і Астроўскі з сябрамі ў Вільні — адна "кампанія". Падчас асабістай сустрэчы напярэдадні адпраўкі на кардон ён даў Грачу адрасы кантактных асоб, параіў зялёнадубцу, як лепш дабрацца да Мінска, удакладніў маршрут. Халодным душам для Грача стала сцвярджэнне Усевалада Ігнатоўскага, што яго *"справа пахне нейкай правакацыяй"*. Але потым наркам згадаў пра шчыльныя адносіны Астроўскага з віленскімі камуністамі і палічыў, што менавіта яны маглі накіраваць пасланца "ЗД" да нацыянал-камуністаў.

●Ніна Стужынская

ЖЫРОВІЦКІЯ СТАРОНКІ

# Расколіны на Жыровіцкай іконе Божай Маці

Жыровіцкая ікона Божай Маці — галоўная святыня Слонімскай зямлі. У 2020 годзе будзе адзначацца 550-годдзе яе з'яўлення. Але найхутчэй дата недакладная, даследчыкі сходзяцца на думцы, што падзея адбылася ў першыя дзесяцігоддзі XVI стагоддзя. У любым разе іконе не менш за паўтысячы гадоў. За гэты час яна перажыла нямала выпрабаванняў, некалькі гадоў у XX ст. правяла ў Расіі, адкуль вярнулася на месца свайго з'яўлення.

Нядаўна пра Жыровіцкую ікону напісала газета *"Беларусь сегодня"*.* Выкладчык Мінскай духоўнай семінарыі іераманах Яўстафій (Халіманкоў) нагадвае, што ікона была пашкоджана пажарам XVI стагоддзя. Як вядома, гэта авал з яшмы з рэльефнай выявай Божай Маці з дзіцем. Цяперашні стан такі, што з манастыра святыня не вывозіцца.

*"Калі паглядзець зблізку, бачныя расколіны,* — кажа іераманах Яўстафій. — *Каб захаваць святыню, у 1996 годзе манастыр вырабіў копію цудатворнай іконы. Адрэстаўраваць арыгінал не так проста. Яшма, з якой складаецца ікона, занадта крохкая для апрацоўкі".*

Будзем спадзявацца, што Жыровіцкую ікону Божай Маці ўдасца захаваць, і яшчэ многія пакаленні беларусаў і паломнікаў з замежжа будуць укленчваць перад святыняй.

●Генадзь Гурскі

**Кузьмич М. Источник утешения и радости // Беларусь сегодня, 2019, № 222, 22 лістапада.*



## Грошы на рэканструкцыю

Указам кіраўніка дзяржавы зацверджана дзяржаўная інвестыцыйная праграма на 2020 год. У ёй прадугледжваецца выдаткоўванне сродкаў на рэканструкцыю Свята-Успенскага манастыра ў Жыровічах.

## Памятная манета

Нацыянальны банк Беларусі ў 2020 годзе выдасць памятную манету,прысвечаную550-годдзю здабыцця цудатворнай Жыровіцкай іконы Божай Маці. Яна не будзе першай. Срэбраныя і залатыя манеты, прысвечаныя Жыровіцкай іконе, выходзілі ў 2011 і 2014 гадах.

●ГГ

# Загадкавая чаша




Паколькі жыровіцкія юбілейныя даты няўхільна набліжаюцца, публікацый, сюжэтаў пра святыню будзе ўсё больш і больш. Газета *"Беларусь сегодня"* змясціла рэпартаж* пра музей Мінскай духоўнай семінарыі, заснаваны ў Жыровічах у 2014 годзе. Матэрыял багата ілюстраваны, у форме экскурсіі распавядаецца пра самыя важныя і цікавыя экспанаты. У ім чытаем: *"Сапраўднай загадкай для гісторыкаў з'яўляецца чаша, якая, мяркуючы па надпісе, належала прускай прынцэсе Александрыне".* Сцвярджаецца, што яна ў Беларусі ніколі не была. Таму спецыялісты пакуль не могуць адказаць на пытанне, якім чынам "неардынарны падарунак" трапіў з Германіі ў Жыровічы.

●Генадзь Гурскі

**Чаровская К. Обитель открывает тайны // Беларусь сегодня, 2019, № 230, 4 снежня.*

# Гальяш Леўчык і віленскі часопіс "Заранка"

У біяграфіі слонімскага паэта Гальяша Леўчыка (Гальяша Ляўковіча, 1880 — 1944) ёсць эпізод супрацоўніцтва з беларускім дзіцячым часопісам "Заранка", які ў 1927-1931 гадах з перапынкамі выходзіў у Вільні. Ён меў сімпатыю да яго рэдактаркі і выдаўца Зоські Верас (Людвікі Войцікавай, 1892 — 1991), працяглы час ліставаўся з ёй.

*"Гальяш Леўчык прысылаў запісы народных загадак, некаторыя ў вершаванай апрацоўцы… На жаль, увесь архіў "Заранкі" ў вайну загінуў…",* — пісала Зоська Верас у 1968-м.[1] Праз дзевяць гадоў яна ўспамінала больш падрабязна: *"…былі яшчэ лісты і матэрыялы ў "Заранку". Пару дзесяткаў загадак (народных), некаторыя апрацаваныя Г. Леўчыкам у вершаванай форме. Верш "Сёмуха" друкаваўся ў "Заранцы". Лісты і іншыя вершы загінулі разам з архівам "Заранкі".*[2]

Такім чынам, Гальяш Леўчык даслаў рэдактарцы "Заранкі" дзясяткі "народных загадак".




Але яны на старонках часопіса з нейкай прычыны не з'явіліся. І ўсё ж восем з іх захаваліся і праз паўстагоддзя былі апублікаваныя Зоськай Верас. [3]

Маю рогі, маю ногі<br>
Я багаты і убогі —<br>
Ля мяне усе сядаюць,<br>
Дык скажы — як называюць?<br>
(Стол)

Магчыма, творы слонімца проста не вытрымалі канкурэнцыі з іншымі аўтарамі "Заранкі". Сярод іх самым папулярным быў Сяргей Новік, які публікаваўся пад псеўданімам "Малады Дзядок". Ён за беларускую дзейнасць быў у высылцы на Памор'і, а ў 1930-я жыў у Слоніме, пазнаёміўся з Гальяшом Леўчыкам, збярог для нас невялікую частку яго архіву.

У 1927-м у дзіцячым часопісе быў апублікаваны ўжо згаданы верш Гальяша Леўчыка "Сёмуха": *"Абудзіў нас шчэбят птушак… Эх! чароўны сьвет!".*[4] У іншым нумары з памылковым ініцыялам "Б. Леўчык" у рубрыцы "Куток смеху" быў змешчаны невялікі абразок:

*—Лявон! Ці бьюць цябе бацькі?*

*—Ай, бьюць.*

*—А каторы з іх больш бье: бацька ці маці?*

*—Хто больш часу мае.*[5]

У апошнім нумары "Заранкі" за 1927 год апублікаваны пераклад верша рускага паэта Мікалая Някрасава "Мароз-ваявода" (у перакладзе — "Дзед Мароз"):

*...На снег, на галлё наступае,*<br>
*Па лёдзе ён з трэскам ідзе,*<br>
*А сонейка ясна гуляе*<br>
*На белай яго барадзе.*[6]

*Заканчэнне на ст.18*

# Гальяш Леўчык і віленскі часопіс “Заранка”

*Працяг, пачатак на ст. 17*

Магчыма, былі і нейкія невялічкія іншыя тэксты паэта, якія проста не былі падпісаныя. У 1928-1929, 1931 гадах Леўчык у часопісе “Заранка” ужо не друкаваўся.

●Сяргей Ёрш

*[1] Войцікава Л. Заранка // Ніва (Беласток), 1968, № 22, 2 чэрвеня.*

*[2] Войцік Л. (З. Верас). Сустрэчы з Гальяшом Леўчыкам // Літаратура і мастацтва, 1977, 30 верасня; Зоська Верас (Людвіка Войцік). Гальяш Леўчык // Леўчык Г. Доля і хлеб: Выбраныя творы. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1980. С. 159.*

*[3] Вершаваныя загадкі для дзяцей // Доля і хлеб… С. 105-106.*

*[4] Заранка (Вільня), 1927, кніжка 4. С. 3.*

*[5] Заранка, 1927, кніжка 7. С. 14.*

*[6] Заранка, 1927, кніжка 8-9. С. 22.*



*Гальяш Леўчык і Зоська Верас*

СЛОНІМСКІЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ

# Хрысціянскае пачуццё



Цана асобнага нумару 20 гр.

№ 14 Вільня, Пятніца 11 Красавіка 1930 г. Год VI (XIV)

Беларуская КРЫНІЦА

Палітычная, Грамадзкая і Літаратурная Газэта.

Рудаўка, Слонімскага пав[ета]. У нашай вёсцы здарыўся пажар. Пагарэльцы, у тым ліку свяшчэннік, [з]асталіся жабракамі — усё згарэла.

Гледзячы на такую бяду, людзі пачалі [да]памагаць няшчасным, хто чым можа. Некаторыя гавораць аб шырэйшай дапамозе пацярпеўшым. Сумна робіцца, гледзячы на бяду пагарэльцаў, але радасць чуецца ў сэрцы, што пачуццё хрысціянскае ў нашых людзей не заглохла. Так, бяда матэр’яльная не ёсць тады страшнай, калі ў сэрцах людзкіх гарыць агонь хрысціянскай любові. Хрысціянская міласць лечыць і раны матэр’яльнага недастатку. З гэтага малога прыкладу можна зрабіць вялікі выснавак, што народ, маючы хрысціянскі светагляд, пераможа ўсе матэрыяльныя беды. У народзе з хрысціянскім светаглядам адзінкі або класы бяднейшыя голаду цярпець не могуць, бо хрысціянства а[ба]піраецца не на сіле партыяў, кулака, стрэльбы або іншых прыладаў, а на любові.

Кастусь С.

*Беларуская крыніца, 1930, № 14, 11 красавіка.*

IN MEMORIAM

# Іван Ёрш

Не стала чытача “СК” Івана Мікалаевіча Ярша. Ён памёр 1 снежня на 79-м годзе жыцця пасля цяжкай хваробы.

Ураджэнец вёскі Савічы, з канца 1960-х жыў у Слоніме. Быў шчырым беларусам, які хваляваўся за лёс сваёй краіны і за сітуацыю на малой радзіме — на Слонімшчыне. Любіў беларускую мову, падтрымліваў дэмакратычны друк. З першага нумару чытаў наш перыёдык.

Светлая памяць!

Сын



# Рэвалюцыйны Слонім

*Працяг, пачатак у № 8-11, 2019*

Пасля ўрокаў мы сабраліся на біржы. У гэты вечар ажыўленне было чамусьці слабое, народу было няшмат. Стала змяркацца. Вуліцы пусцелі. Але вось на іншым канцы пачалося нейкае ажыўленне. Групы людзей беглі ў недалёкую гарадскую ўправу, выходзілі адтуль, размахваючы рукамі, і горача спрачаліся. Штосьці адбылося, відаць, сур’ёзнае — вырашылі мы і кінуліся да ўправы. У гэтае імгненне ўсе вокны прылеглых да біржы крамаў асвяціліся выстаўленымі ў вокнах свечкамі, і біржа раптамператварылася ў ілюмінаваны куток. Не паспелі мы падысці да ўправы, як з адной крамы выскачыў прыказчык і з крыкам “Свабода!” панёсся па ходніках.

— Свабода! Свабода!

Гэты крык заразіў і нас. Мы з усіх ног кінуліся да пад’езда ўправы. Там мы даведаліся прычыну мітусні і ажыўлення. Аказваецца, “Гасудар дараваў усяміласцівы маніфест аб свабодах”.

— Не дараваў, а самі ўзялі! — крыкнуў хтосьці з моцным яўрэйскім акцэнтам, і словы гэтыя выклікалі буру захапленняў. У адно імгненне над натоўпам залунаў невялікі чырвоны сцяг і без слоў, без супярэчанняў шэсце рушыла па Неўскім праспекце*, са спяваннем рэвалюцыйных песень. Сярод нас бегала купка дзяцей і падлеткаў — і ўсё гэта злівалася ў магутным парыве, у дружным хоры варшавянкі.

*В битве великой не сгинут бесследно,*
*Павшие с честью во имя идей…*

Жудасна і добра было сярод гэтай плыні людзей, скаваных адным агульным парывам, адной магутнай мэтай і імкненнем… Мы рухаліся наперад, а вакол нас ужо трашчалі паліцэйскія свісткі і шэрыя сілуэты салдат і гарадавых спяшаліся нам насустрач, намагаючыся ахапіць колам.

На скрыжаванні вуліц патруль са спраўнікам на чале спыніў маніфестантаў, і песня баявой надзеі абарвалася словамі:

*Время за дело приняться,*
*В бой поспешим мы скорей*
*Нашей ли рати бояться*
*Призрачной силы царей?*

“Далоў самаўладдзе!” — крыкнуў звонкі голас.

“Няхай жыве свабода!” — адказаў іншы.

У паветры прагучаў стрэл у выглядзе салюта, і натоўп з крыкам “ура” стаў расплывацца ў розныя бакі. Паліцэйскія кінуліся да сцяганосца, але сцяг знік бязследна, як і зніклі тыя, хто страляў. Сталі хапаць першых, хто трапіў пад руку, хто быў бліжэй. Узялі чалавек 10 рабочых і работніц, пераважна бундаўцаў, і адвялі іх у паліцэйскі ўчастак. Арыштаваныя адчувалі сябе героямі і пераможцамі, і ішлі з высока паднятымі галовамі, усміхаючыся.

Вуліцы апусцелі, толькі дзе-нідзе заставаліся купкі рабочых, якіх разганялі нарады паліцыі і салдат. У душы ў людзей была вялізная светлая радасць, якая вырывалася навонкі. Позна ўначы я вярнуўся дахаты з тысяччу думак і новых уражанняў у галаве. Стомлены, але шчаслівы, я сёння быў ва ўладзе толькі адной сілы, адной стыхіі — рэвалюцыі. Я ведаў і адчуваў, што належу ёй беспаваротна ўвесь цалкам.

● А. Левандоўскі

**”Неўскім праспектам” рэвалюцыйная моладзь назвала адну з цэнтральных вуліц, дзе зімой знаходзілася біржа. — Аўтар. Маецца на ўвазе Неўская (Парадная) вуліца, цяпер — Першамайская (ніжэйшая яе частка) — “СК”.*

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Разбураная плябанія

Slonim Das von den Russen zerstörte katholische Pfarrhaus

На сайце ebay.com у канцы 2019-га жыхар Чэхіі прадаваў стогадовую паштоўку. На ёй подпіс: *“Слонім. Разбураны рускімі каталіцкі парафіяльны дом”.* Паштоўка выдадзена найхутчэй у 1916 годзе і не ў Слоніме, а ў Берліне.

Мураваны будынак плябаніі быўузведзены насупраць касцёла св. Андрэя ў другой палове XVIII стагоддзя. Да нашага часу ён не захаваўся — пасля арышту ў 1949 годзе ксяндза Генрыха Драгеля савецкія ўлады яго занядбалі, а пасля і знеслі.* Плябанія сапраўды была моцна пашкоджана падчас баёў у верасні 1915 года. Яе доўга аднаўлялі — працы скончыліся толькі ў 1926-1927 гадах.

●СЁ

**Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa Nowogródzkiego, część II, tom 3. Miasto Słonim. — Kraków, 2013. S. 34-35.*




“Слонімскі край” — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару Сяргей Ёрш

Наш адрас: slonimskikraj@gmail.com

Спасылка на “СК” пры перадруку абавязковая.